*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 22(356) 10 ЧЭРВЕНЯ 1998 г.**

## Халопенічы — радавое гняздо славутых Багдановічаў

Падзеяй на мінулым тыдні сталася для жыхароў гарадскога пасёлка Халопенічы адкрыццё ва ўтульным старабытным скверыку бюста іх славутаму земляку — бацьку класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча, этнографу, фалькларысту, настаўніку Адаму Ягоравічу Багдановічу.

Пачынаючы ўрачысты мітынг з гэтай нагоды кіраўнік Крупшчыны Міхаіл Максімавіч Гаеўскі выказаў глыбокае прызнанне ўсім, хто працаваў над стварэннем бюста, прыклаў максімум сілы і энергіі, каб бюст паўстаў у акружэнні дрэваў — улюбёнага места адпачынку жыхароў.Міхаіл Максімавіч зазначыў:

— Мы робім яшчэ адзін помнік дзеля справы захавання гісторыі краю, памяці яго знакамітых людзей ...

Ну а ўсё ж хто канкрэтна прычыніўся да стварэння бюста,устанаўлення яго ў Халопенічах — радзіме А.Я.Багдановіча? У першую чаргу трэба назваць старшыню грамадскага культурна-асветніцкага клуба "Спадчына" Анатоля Яўхімавіча Белага. Знаўца гісторыі Бацькаўшчыны, краязнаўства і мастацтвазнаўства, чалавек, які валодае выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі, ён патраціў нямала высілкаў, каб размясціць заказ, адшукаць сродкі на ўстаноўку бюста, яго адліццё.

Над скульптурай працаваў майстар сваёй справы Уладзімір Міхайлавіч Лятун. Гэта яго новая творчая ўдача. Дарэчы, паменшаную копію бюста прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, падчас візіту ў Яраслаўль, перадаў музею М. Багдановіча.

Анатоль Яўхімавіч, выступаючы на ўрачыстым мітынгу, паведаміў прысутным, што ўжо ёсць дазвол на ўстаноўку бюста-помніка Адаму Ягоравічу ў Яраслаўлі. Адбудзецца, адзначыў выступоўца, беспрэцэндэнтны выпадак для краін СНД: у горадзе на Волзе сустрэнуцца бацька з сынам як помнікі ў метале. Менавіта дзякуючы намаганням, ініцыятыве Анатоля Яўхімавіча, чатыры гады таму быў устаноўлены медны помнік Максіму Багдановічу (скульптар Сяргей Вакор) — копія таго помніка, што стаіць у Менску бліз Тэатра оперы і балета.

Пранікнёным і ўражлівым было выступленне вядомай пісьменніцы Вольгі Іпатавай:

— Адам Ягоравіч зафіксаваў у слове тое, што жывіць нас. Сёння мы з'яўляемся сведкамі адраджэння духоўнай спадчыны народа, дакладней , яго працягам, падзей, народным энтузіазмам

Пісьменнік Яўген Міклашэўскі, аўтар рамана пра сям'ю Багдановічаў у сваім выступе прывёў шмат звестак пра жыццё і творчасць Адама Ягоравіча:

— Лёс наканаваў яму быць бацькам славутага паэта. Настаўнік па адукацыі, ён распрацаваў для сваіх сыноў Максіма, Вадзіма і Льва спецыяльную праграму для падрыхтоўкі іх у гімназію. Гэта паспрыяла таму, што Максім Багдановіч быў вельмі адукаваным юнаком. Па запісах фальклору Адама Ягоравіча Максім Багдановіч спасцігаў беларускую мову.

Навукоўца Любоў Ракіта распавядала пра тое, як Адам Ягоравіч цікавіўся народнай педагогікай. Адна з яго прац так і гучыць "Педагогические взгляды белорусского народа" (1894г.).

Крытык і літаратуразнаўца Алесь Беляцкі звярнуў увагу прысутных на змест кнігі Адама Ягоравіча Багдановіча "Пережитки древнего миросозерцания у белорусов", якая ў свой час атрымала высокую адзнаку ў расейскіх вучоных. З яе можна даведацца, што ўяўлялі Халопенічы больш як стагадовай даўнасці, як жыхары мястэчка адзначалі Купалле,Дзяды, Каляды, як яны бераглі традыцыі, звычкі. Адам Ягоравіч зафіксаваў гісторыю мястэчка, апісаў людзей, якія жылі тут. Можа яны з'яўляюцца сёння каму дзядамі, прадзедамі.

На імпрэзу такога роду не мог не прыехаць паэт Валерый Грышановіч — ураджэнец Халопенічаў. Яго выступленне засведчыла, як мінулае лучыцца з сучаснасцю, што Халопеншчына край сумленных і творчых людзей, якія ўмеюць і працаваць, і вучыцца, і адпавядаць, і бараніць сваю Радзіму. Крупшчына і Халопеншчына з'яўляюцца радзімай ажно 15 Героаў Савецкага Саюза.

Ці не яскравы гэта прыклад унікальнасці тутэйшага краю?

Паэт прачытаў сваю паэму, прысвечаную гэтай урачыстай падзеі, якая так і называецца — "Халопенічы". А яе эпіграф ён узяў з аналагічнага верша Васіля Зуёнка: народжанага ў Халопенічах:

*Ніхто не пачуў :*
*Яблык упаў досвецем*
*Ля Халопенічаў, на Беларусі.*
*Ніхто не пачуў — ні людзі,*
*Ні травы, ні вецер.*
*Ніхто.*
*А шар зямны здрыгануўся.*

Так змог сказаць паэт натхнёны творчасцю славутых Багдановічаў!



Свята, прысвечанае слыннаму сыну Беларусі — Адаму Ягоравічу Багдановічу, працягвалася ў мясцовым Доме культуры. Народны гурт "Крупчанка", якім кіруе Вольга Віктараўна Баяркіна, даў шыкоўны канцэрт для жыхароў гарадскога пасёлка і гасцей.

***Уладзімір Новік.***

## Яны ўжо амаль страляюць.

**На мінулым тыдні у бальніцу з мікраінфарктам трапіў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.**

**Прычына — артыкул расейскага пісьменніка Уладзіміра Бандарэнкі пра Ніла Гілевіча ў адной з газет.**

**Дагэтуль Ніл Гілевіч лічыў У. Бандарэнку амаль сябрам.**

## Рэспубліканская рада ТБМ імя Францішка Скарыны.

6 чэрвеня ў Менску адбылася чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Асноўнае пытанне, якое разглядалася на паседжанні гэта пытанне пра месца беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах Беларусі. З дакладамі выступілі доктар тэхнічных навук прафесар Аляксей Саламонаў, прафесар Пётр Касцюковіч, доктар медычных навук прафесар Алесь Астроўскі, а таксама Валеры Паўсцюк, акадэмік Радзім Гарэцкі, ксёндз Ян Матусевіч, дацэнт, кандыдат фізіка-матэматычных навук Людміла Майсеня і інш.

Рада зрабіла глыбокі аналіз стану беларускамоўнай адукацыі ў ВНУ, прыняла адпаведную пастанову.

Значны час быў удзелены ўсё таму ж пытанню беларускага нацыянальнага ўніверсітэта. Найбольш слушную думку выказала Людміла Майсеня. Каб пазбегнуць усякіх ідэялагічных праблемаў і дасягнуць пастаўленай мэты трэба пайсці па шляху постсацыялістычных краін, скажам Балгарыі, у якой адчынена філія амерыканскага ўніверсітэта. У нас гэта можа быць філія Оксфардскага, Кембрыджскага, Сарбоны, нарэшце Ягелонскага ўніверсітэта, дзе выкладанне будзе весціся толькі па-беларуску. Гэта яшчэ не будзе нацыянальны ўніверсітэт, але гэта будзе беларускамоўны ўніверсітэт, што амаль адно і тое ж, калі глядзець з пазіцыі ТБМ.

Рада вырашала некаторыя арганізацыйныя пытанні. У прыватнасці Рада прызначыла рэдактарам газеты "Наша слова" Станіслава Судніка, які да гэтага сем месяцаў выконваў абавязкі рэдактара.

Рада вызначыла М. Кійку ад абавязкаў сакратара ТБМ.

Больш падрабязна матэрыялы Рэспубліканскай рады ТБМ імя Францішка Скарыны будуць пададзены ў наступным нумары.

### Выпісвайце газету "Наша слова"!

Для гэтага Вам неабходна напісаць свой адрас на бланку і аплаціць падпіску на пошце.

Газета Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выходзіць кожны тыдзень.

Скіраванасць газеты:

* Беларуская мова ў нашым жыцці, беларускія школы і класы, беларуская мова ў вышэйшай школе.
* Як правільна гаварыць і пісаць па-беларуску.
* Весткі з Беларусі і ад беларускай дыяспары ў Аўстраліі, ЗША, Расеі, Вялікабрытаніі, і іншых краінах.
* Старонкі дзіцячай творчасці.
* Акрамя таго на старонках газеты асвятляюцца пытанні культуры, публікуюцца вядомыя беларускія літаратары.

Асаблівасць газеты — ахвотна прымаюцца да друку і аператыўна друкуюцца матэрыялы чытачоў газеты.

**Беларускую газету — кожнай сям'і !**

Ф. СП - 1

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 1998 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 36000 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На 1998 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

# Выхоўваць грамадзяніна, патрыёта Айчыны

Адной з важнейшых выхаваўчых задач школ з'яўляецца выхаванне дзяцей і моладзі на нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне, фармаванне грамадзяніна, патрыёта Айчыны.

Педкалектыў Бердаўскай сярэдняй школы Лідскага раёна з паразуменнем ставіцца да вырашэння гэтага пытання, і ўся гэтая работа носіць не эпізадычны характар, а дэталёва прадумана і спланавана.

Яшчэ ў пачатку 90-х гадоў мы распрацавалі сваю рэгіянальную праграму вывучэння гісторыі і культуры нашага краю, фармавання ў школьнікаў нацыянальнай самасвядомасці. Назвалі яе кароткім, але ёмістым словам "Спадчына".

Праграма мае канкрэтна акрэсленую мэту: знаёміць вучняў з гісторыяй, традыцыямі беларускага народа, нашага краю, выхоўваць высокасвядомага грамадзяніна, патрыёта, прывіваць любоў і павагу да працы, фармаваць лепшыя якасці беларуса: дабразычлівасць, фізічную вынослівасць.

Форма рэалізацыі самая разнастайная: ад лекцый і апавяданняў, да экскурсій і турысцкіх паходаў, ад запісу ўспамінаў, да афармлення матэрыялаў для школьнага гісторыка-этнаграфічнага музея, ад работы факультатываў і гурткоў да арганізацыі аглядаў і выстаў і г.д.

Праграма складаецца з IУ асноўных раздзелаў:

1. Гістарычнае мінулае маёй Айчыны і краю.
2. Жыццё і побыт беларуса.
3. Вусная народная творчасць, абрады і звычаі беларусаў.
4. Сёняшні дзень маёй Радзімы.

У пачатку кожнага навучальнага года даецца канкрэтнае заданне на цэлы год па аднаму з кірункаў праграмы, а ў канцы года праводзіцца выніковыя мерапрыемствы. дзе кожны клас трымае справаздачу аб сваёй калектыўнай творчай справе. Так, напрыклад, вучні 4-5 класаў атрымліваюць заданне па аднаму з пунктаў раздзела "Генеалогія майго роду" наступнага характару: сабраць звесткі пра сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў, адшукаць сямейныя рэліквіі, фотаздымкі, даведацца пра паходжанне свайго прозвішча, запісаць успаміны, аформіць альбом і г.д.

Выніковая калектыўная справа-арганізацыя выставы пад час правядзення ў школе Дня сям'і.

Заданне 6 класу наступнае: сабраць звесткі пра паходжанне вёскі, запісаць успаміны старажылаў, даведацца, як і чаму называ-юцца тыя ці іншыя мясціны, правесці фатаграфаванне цікавых мясцін, будынкаў у вёсцы. Матэрыял сістэматызаваць і перадаць у музей.

Выніковая справа — арганізаваць і правесці для кожнага класа тэматычную экскурсію : гісторыя маёй вёскі.

Сямікласнікі выбралі ІІ раздзел праграмы: Жыццё і побыт беларуса. На працягу года пад кіраўніцтвам класнага кіраўніка і кіраўніка музея дзеці правялі вялікую работу па збору экспанатаў па этнаграфіі і гісторыі, сустрэліся з пажылымі людзьмі, запісалі іх успаміны, правялі шэраг экскурсій: у нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей, музей в.Гудзевічы, што ў Мастоўскім раёне.

Выніковай справай стаў вусны часопіс "Мой родны кут".





Бердаўскія школьнікі ў сэрцы Беларусі на Нясвіжчыне

Васьмікласнікі працавалі па раздзелу III. Вусная народная творчасць, абрады, звычаі беларусаў.

За вучэбны год яны сабралі і запісалі мясцовыя звычаі, паданні, прымаўкі, загадкі. Сістэматызавалі і ўсе матэрыялы перадалі ў музей.

Вучні 9, 10, 11 класаў працавалі па накірунках раздзелаў 1 і IУ "Наш край у гады Вялікай Айчыннай вайны", "Гісторыя школы", "Гісто-рыя класа". Вынік работы школьнікаў гэтых класаў — цікавыя і змястоўныя матэрыялы, факты, успаміны.

І самае галоўнае, дзеці пераканаліся, што героі жылі і жывуць побач. Жыхары сельсавета прымалі ўдзел у вайне з Германіяй у складзе польскай арміі ў 1939 годзе. Ёсць такія, што прайшлі па дарогах вайны з першага да апошняга дня, ці такія, што змагаліся з ворагам у Сталінградзе, а затым дайшлі да Берліна, ваявалі на тэрыторыі Кітая з квантунскай арміяй.

Ёсць кавалеры Ордэна "Славы", "Чырвонай Зоркі", узнагароджаныя медалямі "За адвагу".

Нашым дзецям ёсць з каго браць прыклад, ім ёсць кім ганарыцца.

Вельмі плённа і актыўна праводзіцца выхаваўчая работа ў школе пад час юбілейных дат школы-40 годдзя і сёлета пры падрыхтоўцы да 50-годдзя.

Распрацаваны спецыяльны план, які ўключае разнастайныя мерапрыемствы: перапіска з выпускнікамі розных гадоў, напісанне сцэнарыю ўрачыстага вечара, стварэнне відыяфільма, сустрэчы з ветэранамі педагагічнай працы, афармленне выстаў, новай экспазіцыі ў музеі.

Шмат увагі надаем вывучэнню роднага краю пад час экспедыцый, экскурсій і паходаў.

Гэта работа пачынаецца ўжо з пачатковых класаў. Знаёмства з роднымі мясцінамі, гісторыяй свайго сельсавета, вёскі ў школьным музеі, наведванне раённага цэнтра г. Ліды. Вучні 5-9 класаў бываюць у абласным цэнтры г. Гародня, яго музеях навучальных установах, прадпрыемствах, сталіцы рэспублікі г. Менску і яго памятных мясцінах. Абавязкова кожны год арганізоўваюцца экскурсіі ў г. Наваградак, на в. Свіцязь, у п. Мір, г. Нясвіж. Дзеці атрымліваюць магчымасць дакрануцца да сівой мінуўшчыны, бліжэй пазнаёміцца з гісторыяй і сталіцы Вялікага княства Літоўскага, жыццём і дзейнасцю Адама Міцкевіча ў Наваградку, асаблівасцямі беларускай замкавай архітэктуры ў пас. Мір. Вельмі вялікае ўражанне на дзяцей аказвае вандроўка ў г.Нясвіж. Вучні даведаліся аб планіроўцы ідэальнага горада, аб яго архітэктурных помніках, аб палацава-паркавым ансамблі, пачулі шмат легендаў пра Радзівілаў.

Сёлета адпраўляемся ў веласіпедную вандроўку па маршруту Бердаўка-Ліпнішкі-Геранёны-Радунь - Крупава - Бердаўка. Школьнікі ўвачавідкі пазнаёмяцца з планіроўкай беларускага мястэчка, пабываюць на месцы, дзе адбылася бітва пад час паўстання Т.Касцюшкі - в. Ліпнішкі. Пабываем ля развалін замка, дзе, па легендзе, сустракаліся польскі кароль Жыгімонт Аўгуст і Барбара Радзівіл — в. Геранёны, наведаем магілу Нарбута ў в.Нача, гісторыка-краязнаўчы музей в.Радунь, музей І.Дамейкі ў в.Крупава. Акрамя гэтага будзе праведзена экскурсія ў г.Заслаўль і на радзіму Я.Купалы, Вязынку.

Затым вандроўка па Нёману ад Гаўі да Лебяды (знаёмства з стаянкамі першабытнага чалавека, паселішчамі, паверхнявыя зборы).

Дзеці нашай школы знаёмяцца з археалагічнай навукай не па падручніку, а дзякуючы непасрэднаму ўдзелу ў археалагічных раскопках і разведках. Два гады таму завязаліся сяброўскія адносіны з нацыянальнай Акадэміяй навук. Запрасілі на раскопкі курганнага магільніка ля в. Касоўшчына супрацоўніка АН РБ дацэнта Звяругу Я.Г.

Але ад мясцовых жыхароў даведаліся, што падобны магільнік ёсць і ў 1 км на поўнач ад в.Сцеркава. Вырашылі капаць там. Вучні пазнаёміліся з правіламі раскопак, з пахавальнымі абрадамі балтаў і славян. І хоць курганы былі беднымі, але ж дзеці атрымалі задавальненне. Была праведзена археалагічная разведка каменных магіл ля в.Касоўшчына, в.Калдобы, паселіч ля в. Дакудава. Пазней з дзецьмі мы зрабілі археалагічную разведку і правялі паверхнявыя зборы на стаянках першабытнага чалавека ля вёсак Даржы, Беліца, Збляны, паселішчах ля вёсак Белагруда, Збляны.

У гэтым годзе навукоўцы начале з Міхасём Чарняўскім пры ўдзеле школьнікаў нашай і Дакудаўскай школ плануюць правесці раскопкі на паселішчы ля в.Дакудава.

Супрацоўнікі акадэміі перадалі для школьнага музея вялікую колькасць літаратуры з аўтографамі аўтараў, склалі карту археалагічных помнікаў на тэрыторыі Лідчыны.

Вялікае месца, як у вучэбнай так і выхаваўчай рабоце, адыгрывае школьны гісторыка-этнаграфічны музей. Ён з'яўляецца цэнтрам выхавання ў падрастаючага пакалення нацыянальнай свядомасці, любові да роднага краю, да нашай багатай спадчыны.

Музей пачаў стварацца яшчэ ў пачатку 80-х гадоў. У сённяшнім выглядзе ён адчыніў свае дзверы ў 1989 годзе. Музей мае 6 экспазіцыйных пакояў, агульнай плошчай 135 кв.м. У ім знаходзіцца каля 1000 экспанатаў.

Раздзелы экспазіцыі :

1. Наш край у перыяд першабытна-абшчыннага ладу.
2. Месца Лідчыны ў ВКЛ і РП.
3. Лідчына ў XIX — 30-х гг. XX ст.
4. Наш край у перыяд Вялікай Айчыннай вайны.
5. Гісторыя роднай школы.
6. Калгас "Бердаўка".
7. Прырода нашай мясцовасці.
8. Жыццё і побыт беларуса ў XIX — пачатку XX стст.

Асноўнае месца займае экспазіцыя, прысвечаная жыццю і побыту беларуса ў XIX — пачатку XX ст.ст. Тут экспануецца каля 200 прадметаў этнаграфіі. Наведаўшы першыя тры пакоі, дакранаешся да мінулага. Тут пабачым інтэр'ер абстаноўкі сялянскай хаты канца XIX — пачатку XX стст., пазнаёмімся з беларускім нацыянальным касцюмам (нёманскі строй), прадметамі хатняга абіходу і прыладамі працы.

У музеі экспануецца прадметы па археалогіі. Іх каля 60.

Вялікае месца адведзена Вялікай Айчыннай вайне. Сярод экспанатаў дакументы, фотаздымкі, асабістыя рэчы, ваеннае снаражэнне часоў вайны, фотаздымкі жыхароў сельсавета, што ўдзельнічалі ў вайне, матэрыялы пошукавай работы.

А вось мы перад экспазіцыяй "Гісторыя нашай школы", дарэчы ў гэтым годзе ёй спаўняецца 50 год. Тут пабачым матэрыялы і фотаздымкі пра першых настаўнікаў і кіраўнікоў школ, дакументы, што расказваюць пра цікавае і змястоўнае школьнае жыццё.

Цікавасць уяўляе і 6-я, апошняя зала. Наведаўшы яе, пазнаёмішся з флорай і фаўнай нашых мясцін. Пудзілы птушак, звяроў, рыб, гербарыі раскажуць аб жывёльным і раслінным свеце, а шматлікія фотаздымкі і матэрыялы апавядаюць аб тым супярэчлівым этапе нашай гісторыі як калектывізацыя і аб сённяшнім дні калгаса "Бердаўка".

Выкарыстанне матэрыялаў музея дапамагае настаўнікам гісторыі, геаграфіі, біялогіі, класным кіраўнікам пры правядзенні пазакласнай выхаваўчай работы і ўрокаў. Пры музеі працуюць гурткі народных промыслаў : ткацтва і разьбы па дрэву, лялечны тэатр "Батлейка", вядзецца вялікая пошукавая работа.

Вельмі змястоўна і цікава праходзяць у музеі ўрокі па прадметах "Мая Радзіма — Беларусь" у 4 класе, урокі гісторыі ў 5—11 класах.

Так, напрыклад, урок па гісторыі Беларусі ў 6 класе па тэме : "Асноўныя дасягненні ў вывучэнні сярэднявяковай гісторыі Беларусі", праведзены ў школьным музеі, дае магчымасць увачавідку пазнаёміцца з разнавіднасцю гістарычных крыніц : рэчавымі, пісьмовымі, гістарычнымі дапаможнымі навукамі : археалогіяй, этнаграфіяй, нумізматыкай.

На ўроку вырашаецца галоўная выхаваўчая задача — прабудзіць у вучняў цікавасць да гісторыі Бацькаўшчыны, да яе мінулага і сучаснага, прывіваць нацыянальную самасвядомасць, гонар за нашу Айчыну.

Вельмі цікава і змястоўна праводзяцца ўрокі па тэмах : "Канчатковае засяленне Беларусі" і "Бытавыя звычаі і абрады" у 5 класе. "Беларускі народ — этнас" у 6, "Беларуская вёска" у 7, "Наш край у гады Вялікай Айчыннай вайны" у 9 класе і іншыя. У якасці экскурсаводаў выступаюць найбольш падрыхтаваныя вучні старэйшых класаў.

Музей з задавальненнем наведваюць не толькі нашы школьнікі, але і вучні з іншых школ горада і раёна, а таксама шматлікія госці.

На базе музея часта праводзяцца семінары па краязнаўчай рабоце, актывісты музея ўдзельнічаюць у раённых і абласных аглядах і конкурсах.

Глыбока прадуманая і мэтанакіраваная выхаваўчая работа педагагічнага калектыву школы па нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыне дапамагае вырашаць вельмі актуальную і такую неабходную задачу, як выхоўванне грамадзяніна нашай Айчыны, што будзе ведаць гістарычнае мінулае, шанаваць сваю мову, сваю Бацькаўшчыну і які з гонарам будзе гаварыць : "Мая Радзіма — Беларусь !"

Варта адзначыць, што ўся гэтая праца вядзецца выключна на беларускай мове.

***Крупа А.Л.** — дырэктар Бердаўскай сярэдняй школы, выкладчык гісторыі, сябар Рэспубліканскай рады ТБШ*





# Самотнік

Я распавяду табе пра твой лёс.

Усё пачалося з маленства. З тае пары, калі нешта няўлоўнае і невытлумачальнае бярэ нас у свой нябачны палон. Калі ты згадаеш яе, то робіш выснову: найвялікшай тадышняй радасцю былі святы — Каляды і Вялікадня. Яна складалася з тужлівага прадчування і чакання, з патаемных жаданняў і мрояў, з традыцыйнага наведвання старажытнай царквы разам з бабуляю, з водару найлепшых у свеце булак, што выпякала твая чараўніца — маці. Гэтага хапала надоўга. Камуністычныя "чырвоныя дні календара" ніколі не ўважаліся ў тваёй сям'і за свята, бо ў іх не ставала адчування вечнага.

З цягам часу акцэнты зрушыліся, з'явіліся новыя жаданні. Ужо пасталеўшым ты адчуў духоўную смагу, што была спрычыненая нейкім яшчэ неакрэсленым пакліканнем. Дзеля ейнай спатолі стаў вандроўнікам па абсягах сусветнай культуры. То быў ужо сапраўдны палон. Ты доўга шчасціўся ім у блуканях па лабірынтах Вавілонскай Бібліятэкі ў пошуках Кнігі. Разам з "Pink Floyd" зазірнуў на "цёмны бок Месяца" і быў сведкам разбурэння таталітарнага муру. Яшчэ раней Арыстотэль, Дэкарт, Оруэл і Дастаеўскі разбілі гэтую муру тваёй свядомасці. Дадатковыя аргументы, што абрынуліся на ўсіх падчас перабудовы, табе ўжо не спатрэбіліся. Тваё падполле пачалося разам са студэнцкімі бунтамі 68-га. Кант развярэдзіў душу сваімі імператывамі, Ніцшэ паставіў іх пад сумнеў, пакуль усіх не палагодзіла расейская класічная філасофія. Чужая культура мела быць прыўлашчана, але яна не станавілася роднай. Душа твая зноў пачала смягнуць. Нейкі час ты пачуваўся адлюдненым.

Між тым, мусіла існаваць недзе побач культура твайго народа. Ты з дзяцінства дыхаў яе паветрам. Яго выпраменьвала зямля, старажытныя муры, помнікі, кнігі і людзі. Але, спешчаны іншымі каштоўнасцямі, што здаваліся табе больш высокімі, ты, вечны бадзяга, заўжды абмінаў сваё, блізкае, нават пагарджаў ім. Ад пагарды цябе вылечыў сябра. Ён жыў у другім свеце. Яго захапленнем і сэнсам жыцця была Беларушчына. Ён даў добрага штуршка тваёй свядомасці. Астатняе зрабіў найноўшы беларускі рамантызм.

Перад усім твой сябра і ты гаварылі на розных мовах. Раней, сярод гараджан, ты спатыкаў людзей, што размаўлялі па-беларуску. Але іхнае маўленне выглядала як функцыянальна-прымусовы, механічны акт. Ён жа ўсвядоміў сваю беларускасць яшчэ з часоў навучання ў расейскамоўнай школе. Неяк ён паказаў табе фота з газеты, дзе амерыканскія беларусы неслі на дэманстрацыі плакат з тэкстам на беларускай лацінцы. Вось якой магла б быць мова майго народа — падумалася табе. Новыя імпульсы ты атрымаў, дзякуючы Ул. Караткевічу, В. Ластоўскаму і ... цешчы. Здавалася Юрась Братчык ці сам Власт прамаўлялі ейнымі вуснамі — гэткай амаль чыстай і вобразнай была гаворка. Ты толькі паспяваў запісваць у нататнік сакавітыя фразэмы ды выслоўі. Каля вёскі, дзе жыла цешча стаяў гаманлівы лес, зваўся Крыніцы. Кожная адметнасць на тамтэйшым абшары мела свае найменні: Паплавы,Пярэчкі, Макаўе, Гай, Амшарка, Масток ... На неабсяжным балоце ты збіраў увосень журавіны і набрыньваў моцай ад духмянага паху імху, верасу і яшчэ немаведама чаго. А ў далечыні, на дзівосным даляглядзе зіхацелі вежы Будслаўскага касцёла, куды ты рабіў незабыўныя пілігрымкі на роварах разам з сынам. Беларусь паўстала перад табой ва ўсёй сваёй аўтэнтычнай прыгажосці і першароднасці.

Ты зліўся з ёй душой і прагна піў з яе крыніц. Ты акрыяў духам. Раней спакусіўся на чужаземныя прысмакі і не заўважыў адмысловага смаку роднае мовы. Неўпрыкмет яна апанавала свядомасць і сталася для цябе паветрам. Але яго, на жаль, бракавала. Бо ўся навакольная наасфера была пераважна расейскамоўнай. А табе так захацелася напоўніць адчуць Сваю Краіну, адчуваць паўсюдна і штодзень. Чалавек не можа доўга трываць нястачу паветра. Калі ты бываў на выправе ў вялікім горадзе, то мусіў час ад часу хадзіць на аўтавакзал, каб паслухаць гаману старых вяскоўцаў. Мне ты распавёў пра сон, у якім пабачыў кнігарню, дзе ўсе кнігі па сусветнай літаратуры былі ў перакладзе на беларускую мову. У роспачы ты заглыбіўся ў беларускую літаратуру. Прачытаў амаль усё, што было даступна. Найбольшую асалоду, апроч Караткевіча, атрымаў ад твораў І.Канчэўскага, М. Багдановіча, М.Гарэцкага, Л.Геніюш, В. Быкава, А.Разанава, перакладаў В.Сёмухі. А пераклад Янам Максімюком першага тому "Уліса" канчаткова пераканаў цябе ў жыццяздольнасці беларускае мовы. Творы беларускай савецкай літаратуры перачытваць не схацеў, бо добра іх памятаў са школьнае пары. Найвялікшае ўражанне меў ад "Гульні шкляных перлаў", што так цудоўна пераклаў В.Сёмуха. Перачытваў колькі разоў. Ты заўсёды шукаў у літаратуры інтэлектуальнасці і сучаснай эстэтыкі. У творах шматлікіх савецкіх пісьменнікаў таго амаль не было. Яны стварылі вобраз прыгорбленнага чалавека ў лапцях. А ты ж добра ведаў: лапці — не беларуская вынаходка. Табе рабілася сумна. Яўна бракавала духоўнага спажытку. Ужо ў цяперашні час ты вельмі добра зразумеў пачуцці С. Дубаўца, што ён выказаў у "Ружовым тумане". Мажліва, там былі хібы з аргументамі, але высновы супадалі з тваімі. Вязні, хай сабе і па-мастацку, апісвалі жыццё ў вязніцы. За калючы ж дрот вяртацца не хацелася нават у думках.

Аднаго разу ты прыйшоў з працы як заўсёды, а 18-й, расчыніў дзверы ў пакой кватэры, і вось дзіва. Ён, зазвычай прыцёмны гэткай парой, патанаў у промнях сонца, што разагнала шэрыя зімовыя хмары і пафарбавала ўвесь далягляд пяшчотным веснавым блакітам. Ты так стаміўся ад зімовае слоты, сцюжы і духоўнай няпэўнасці. На пісьмовым стале ляжала газета, якую упершыню выпісаў — адноўленная "Наша Ніва". Ты адкрыў яе, як вандроўнік адкрывае новую зямлю. Але ж гэта была не зямля, а неба — новае неба. Беларусы так даўно глядзелі ў неба — падумалася табе. Перад табой паўстала новая, невядомая Беларусь. Хай сабе яна прымроілася віленскім летуценнікам, але ты знайшоў там ейнае апраўданне і тое, што так прагна чакаў: вобраз еўрапейскай краіны, мадэрновы стыль, несавецкі погляд на гісторыю, інтэлектуальную прозу і паэзію, выкшталцоную мову. І ўсё гэта з вялікім густам і натхненнем.

Газета стварыла адмысловы настрой і рамантычны вобраз маладога чалавека, які "культывуе сваю Беларушчыну за кубкам кавы" падчас перапынку на калоквіюме па герменеўтыцы. Цяпер ты быў пэўны — гэткія беларусы сапраўды ёсць.

У "НН" ты прачытаў Борхеса, Камю, Э.По па-беларуску. Тут ты сустрэў эсэ-засцярогу "Мёртвы дом" С.Дубаўца, якое мусіла стацца падзеяй у грамадскім жыцці. Апошнія катаклізмы ў краіне пацвердзілі слушнасць высноваў рэдактара "НН". Найноўшае адраджэнне раптоўна сканала не толькі праз кепскае начальства, што Бог вечна прызначае беларусам. Беларусшчына ёсць творчасць ! Проста са свае прыроды, па азначэнню. Яе ж ператварылі ў руціну, у "элемент аздобы школьнае клясы". Згадайма, хаця б, як стварылі ТБМ на "глыбінцы": сабралі ўсіх настаўнікаў беларускай мовы і запісалі гуртам у суполкі. Тыя ж настаўнікі спужаліся мягкіх знакаў і дружна праігнаравалі "Нашу Ніву". Астатнія напалохаліся элітарнасці выдання. А газета сапраўды пачала фармаваць эліту. З ініцыятывы чытачоў і на іншыя грошы выдавецтва "НН" надрукавала новую кнігу В.Быкава "Сцяна". Ты здзівішся з тых жа настаўнікаў, бо яны ў большасці сваёй не ведаюць пра гэтую акцыю і не могуць таму прыдбаць кнігу, бо яна распаўсюджваецца толькі "Нашай Нівай". Тут жа яны маглі б замовіць па пошце касеты Данчыка і Касі Камоцкай, якія ў сэнсе духоўнасці на дзве галавы вышэй за расейскую гоп-кампанію, што апанавала БТ.

... Кася пяе "Чаканне Каляд", як гімн твайго пакалення. Узнёсла, адухоўлена, высокай паэзіяй, пекнай мелодыяй кранае сэрца. Ты зноў чакаеш свае Каляды. Веру — дачакаешся. І твае сябры таксама. І ўсе беларусы.

***Янка Храпавіцкі.***

***Лявон Калядзінскі***

## КАРАБЛІК

Паўзмрок залы кінатэатра. Профіль яе тварыка. Тонкі носік з маленькаю гарбінкаю. Яна паварочвае свой тварык. Каштанавыя, злёгку кучаравыя валасы ледзь кранаюцца яе плячэй. Вялікія міндалепадобныя вочы. Паўмесяцам брыво. Прыгожыя, вельмі прыгожыя вусны, параўняць якія з чымсьці пакуль што немагчыма. Над верхняю губкай светлы пух валаскоў. "Ну што ? — пытаюцца яе вочкі. Вусны гарэзліва пасміхаюцца. Угледваюся на тварык. Ён трохі больш скуласты, чым у нас, беларусаў. Гэты дамешак у славянскае абліччa прынеслі яе даўнія продкі з Крыма. Татары, полаўцы, хазары, печанегі, аланы, авары, гуны ... чыіх толькі коней не насіла зямля Таўрыды? А калі зірнуць глыбей ?

Херсанес, 63 год нашай эры. Войскі таўраскіфаў ужо амаль ля сценаў горада. Рымскі флот імператара Нерона паспешліва ўваходзіць у Каранцінную бухту ...



Бой скончаны. Спёка. Жаўнер 1-га Італійскага легіёна спыняецца ля студні. Сасмяглыя вусны ледзь варушацца. Ліпкі пот засцілае вочы. Маладзенькая херсанесітка абедзвюма... аберуч перадае яму амфару. Некалькі прагных каўткоў і вусны адрываюцца ад горла амфары, каб перавесці дух. Смуглявы твар, доўгія, на спіну, кучаравыя валасы, вочы алюкі ...

Амфара паволі апускаецца на зямлю, затым кладзецца на бок. Халодны струменчык кранаецца ног і амаль імгненна знікае між парэпаных вапняковых плітаў дворыка. "Amo, amo tui",* — гаворыць юнак. Праз год у іх нараджаецца дзяўчынка. Ад яе, у сваю пару, так сама нараджаецца дзяўчынка і гэтак далей, далей і далей ...

І вось амаль праз 1,5 тысячы гадоў гэты кавалачак поўдня заносіць на блакітныя абшары нашага Пасожжа. І ўжо тут нараджаецца прыгожая дзяўчынка, з прыгожымі карымі вочкамі, якую назавуць прыгожым імем **"КАРЫНА"**, што ў перакладзе з лацінскай азначае ***караблік.***

* "Я кахаю, Я кахаю цябе ..." (лацінская мова)

## МАЛІТВА Ў КУРАПАТАХ

Курапаты. Раскопкі. Я — археолаг, які волю лёсу прымае у іх удзел. Яма. Чэрап. Дзірка ў патыліцы і шчыліна. Чаму ? Рулю нагана прыстаўлялі ўшчыльную да галавы. Стрэл. Парахавыя газы з рулі ўрываюцца ў адтуліну і разломваюць чэрап ...

Паўзверх чэрапа грэбень. Звычайны касцяны грэбень, якім жанчыны мацуюць доўгія валасы. Хто яна? Колькі ёй было ? Можа ўрач, можа настаўніца ... Мадэльныя чаравікі. Значыць, не зусім сталага ўзросту. Можа 25, можа 30, можа троху больш ...

Страх, аняменне ? А можа вера ў Боскае выратаванне ? А можа праклён і вера ў Боскае пакаранне? Чытаю малітву, якую прыдумаў сам, стоячы ля краю гэтай ямы, дзе ляжала Яна.

"Божа, не дапусці гневу людскога, нянавісці, помсты і гвалту над тымі, хто ўсё гэтае зрабіў. Бо гэтыя нялюдскія пачуцці ізноў народзяць гнеў, нянавісць, помсту і гвалт. І гэтак будзе бясконца ...

Божа, пакарай іх сам. І ў гэтым пакаранні няхай будзе асэнсаванне імі свайго ўчынку і каб віна за гэты ўчынак мучыла іх да скону веку іхняга. І каб прыйшлі яны да Цябе, Госпадзе. А прыйшоўшы у храм, стаялі на каленцах і прасілі б Цябе аб літасці. А далей, Госпадзе — будзь воля Твая. Аман".

г. Менск

***Рэдактар Станіслаў Суднік***

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 8. 06. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова №1552.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.